ГАЗЕТА З БЕЛАРУСІ

# ГОЛАС РАДЗІМЫ

ВЫДАЕЦЦА З 1955 ГОДА ● ● NO.23 (3143) ● ● ЧАЦВЕР, 25 чэрвеня, 2009

ШТОТЫДНЁВІК "ГОЛАС РАДЗІМЫ" МОЖНА ЧЫТАЦЬ У ІНТЭРНЭЦЕ: WWW.GOLAS.BY



**Муза Нясвіжа**
Самая вялікая карціна ў краіне рэстаўруецца ў сталіцы **Стар. 2**



**Знічкі Айчыны**
**Стар. 3**



**Майстры абаяльных усмешак**
У Мінску ўпершыню прайшоў арыгінальны конкурс "Жывая палітра" **Стар. 4**




БЕЛТА

Мінск імкнецца стаць месцам, дзе кожны адчувае сябе ўтульна

# Гасцінны навігатар па прыгожых мясцінах,

## альбо Яшчэ адна важкая нагода наведаць Беларусь

Дзмітрый Альфер

Для сваіх вандровак турысты ўсё часцей вызначаюць Беларусь як краіну, куды яны жадаюць завітаць у бліжэйшы час. Землякі, якія жывуць за мяжой, пацвердзяць — іх малая радзіма вартая ўвагі. Напэўна, хтосьці з чытачоў даўно збіраецца наведаць сінявокую, але яшчэ не выбраў зручны для візіту момант. Дык вось, паважаныя, цяпер, мяркую, прыняцце рашэння накшталт таго, калі прыехаць у краіну, і, у прыватнасці, у Мінск, можа паскорыцца. Ужо зусім хутка ўсім гасцям з замежжа будуць прапанаваны скідкі пры наведванні папулярных месцаў беларускай сталіцы.

Размова ідзе пра тое, што ўсе, хто прыедзе ў краіну з-за мяжы, атрымаюць магчымасць скарыстацца так званай дысконтнай карткай госця Мінска. У сусветнай практыцы такая картка — адзін з найбольш эфектыўных сродкаў для прыцягнення турыстаў. А той з суайчыннікаў, хто плануе наведаць радзіму і падлічвае, у колькі ж абыдзецца паездка, можа пазначыць ужо цяпер: нумар у некаторых гасцініцах будзе каштаваць танней, чым раней.

За меншыя грошы стане магчыма набыць і кветкі на тэатральную прэм'еру, схадзіць у музей. У Мінску вызначана больш за восемдзесят месцаў, скідкі ў якіх дасягаюць дванаццаці працэнтаў. Пры гэтым, аўтары праекта ўлічылі не толькі культурныя запыты гасцей з-за мяжы. За больш прывабны кошт можна наведаць кафэ і рэстараны, буйныя гандлёвыя і забаўляльныя цэнтры. Сэканоміць стане магчымым пры арэндзе аўтамабіляў і на заправачных станцыях, пры карыстанні банкаўскімі паслугамі і нават пры звароце ў некаторыя страхавыя кампаніі.

Так, пакуль што дысконтная сістэма будзе дзейнічаць толькі ў беларускай сталіцы. Але ўжо цяпер прыняць удзел у гэтым праекце пажадалі і нацыянальныя паркі, і санаторыі, і курорты, якія знаходзяцца ў розных рэгіёнах Беларусі. Вопыт іншых краін засведчыў, што "карткай госця" карыстаюцца з вялікай ахвотай. Па планах, з наступнага года месцаў, у якіх можна будзе сустрэць скідкі, стане значна больш. Таму іх дзеянне распаўсюдзіцца на ўсю краіну.

Сваіх гаспадароў ужо чакаюць першыя пятнаццаць тысяч дысконтных картак. У якасці падарунка іх будуць прапанаваць непасрэдна ў кропках, дзе аказваюцца паслугі па ніжэйшым кошце. Дарэчы, нават пакідаючы Беларусь, прыхапіце з сабой гэты навігатар па цікавых месцах Мінска. Магчыма, праз год ці два вы зноў пажадаеце прыехаць у краіну. Тэрмін дзеяння карткі да гэтага часу не скончыцца.

ДА 65-ГОДДЗЯ ВЫЗВАЛЕННЯ БЕЛАРУСІ

# Павага да Непакорнага чалавека

**Мемарыяльны комплекс "Хатынь" дастойны таго, каб стаць часткай сусветнай спадчыны**

На пасяджэнні круглага стала, якое было прымеркавана да сарагадоддзя з часу адкрыцця мемарыяльных комплексаў "Хатынь" і "Курган Славы", старшыня Беларускага фонду міра, ветэран Вялікай Айчыннай вайны Марат Ягораў расказаў, што "Хатынь" можа быць унесена ў спіс помнікаў ЮНЕСКА.

Марат Ягораў адзначыў, што ў час сваёй паездкі ў Парыж ён звярнуўся да прадстаўнікоў ААН па пытаннях адукацыі, навукі і культуры, з прапановай занесці "Хатынь" у лік аб'ектаў сусветнай спадчыны. У ЮНЕСКА зацікавіліся такой прапановай. Як лічыць сам Марат Ягораў, цяпер трэба, каб пытанне было прапрацавана на больш высокім узроўні.

Як вядома, "Хатынь" адкрылася 5 ліпеня 1969 года з нагоды 25-годдзя вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Архітэктурна-скульптурны ансамбль фактычна цалкам паўтарае планіроўку знішчанай вёскі. Уздоўж вуліцы былога селішча, на месцы кожнай з дваццаці шасці спаленых хат знаходзіцца вянок зруба. Усярэдзіне — абеліск у выглядзе печкавай трубы, на якім размешчана мемарыяльная табліца з прозвішчамі і імёнамі жыхароў хаты. Усе абеліскі ўвенчаны званамі. У цэнтры мемарыяла знаходзіцца скульптура Непакорнага чалавека.



АЛЯКСАНДР РУЖАЧКА

Мемарыял "Хатынь"

# Пад знакам гістарычнай памяці

Аліна Грышкевіч

**Паразуменне паміж народамі магчыма толькі тады, калі людзі памятаюць мінулае. Менавіта памяць аб мінулым стварае будучае. Гэтыя тэмы былі ў цэнтры ўвагі падчас візіту ў ФРГ дэлегацыі ветэранаў з Мінска, якія падчас фашысцкай акупацыі былі пагнаны на прымусовыя работы ў Германію**

Характэрна, што візіт адбываўся напярэдадні гадавіны пачатку Вялікай Айчыннай вайны. У нямецкім Майнце сустрэліся як пагнаныя падчас фашысцкай акупацыі на прымусовыя работы беларусы, так і былыя нямецкія ваеннапалонныя.

Паездку беларускай дэлегацыі арганізаваў берлінскі фонд "Памяць, адказнасць і будучае", які займаецца праектамі, скіраванымі на захаванне гістарычнай памяці аб вайне. Цяжкія хвіліны ўспамінаў прыйшлося перажыць гасцям на сустрэчах з вучнямі Вілігіскай гімназіі і навучэнцамі рэальнага вучылішча ў горадзе Лерхенберг, калі яны расказвалі аб самых цяжкіх момантах свайго жыцця — аб гадах вайны і прымусовых работах у Германіі.

Запамінальнай стала сустрэча з былым ваеннапалонным Хорстам Эльснерам, які пасля вайны да 1949 года ўдзельнічаў у аднаўленні Мінска. "Беларускія і германскія ветэраны разумелі адзін аднаго з паўслова, бо яны перажылі шмат цяжкага, хоць і па розных баках барыкад. Эльснер цёпла выказваўся аб тым часе і, асабліва, аб людзях, якія, страціўшы так шмат у жорсткай вайне, змаглі захаваць дабрыню і шчырасць чалавечых адносін, — расказалі ў таварыстве сяброўства "Майнц-Мінск". Удзельнікі сустрэчы запэўнілі, што зробяць усё магчымае, каб захаваць памяць аб мінулым.

# Муза Нясвіжа

## Самая вялікая карціна ў краіне рэстаўруецца ў сталіцы. “Леда ў атачэнні амураў” — адзіны мастацкі твор, які ўпрыгожваў Нясвіжскі замак на працягу другой паловы XX стагоддзя


Мастак-рэстаўратар Аляксандр Тарасік працуе з натхненнем

**Віктар Корбут**

Большасць скарбаў палаца Радзівілаў была перавезена ў Мінск яшчэ да Вялікай Айчыннай вайны, у мастацкі музей, а некаторыя ўвогуле страчаны без вестак у гады ліхалецця. “Леду” не закранулі ніякія стыхіі, бо яна ўзвышалася над галоўнай лесвіцай палаца на такой адлегласці ад прыступак, што дацягнуцца да шэдэўра можна было толькі поглядам. Шэдэўр красаваўся на столі да той пары, пакуль у ноч на 25 снежня 2002 года не здарылася бяда…

Тады, па іроніі лёсу, у свята Божага Нараджэння, на паддашку замка нешта загарэлася: пажар мог ахапіць усю былую магнацкую рэзідэнцыю, але аператыўна спрацавалі хлопцы з Міністэрства па надзвычайных сітуацыях. Пажарнікі патушылі полымя, але паліваючы няўрымслівыя агеньчыкі са сваіх магутных водных установак, ненаўмысна пашкодзілі і “Леду”.

Карціна, якая набрыняла вадой, рызыкавалася абрынуцца на падлогу і разарвацца на шматкі. Толькі рама трымала палатно над шырокім пралётам. Але падаспелі рэстаўратары. Надарылася нагода зняць выяву грэчаскай багіні са столі. Каштоўны твор мастацтва, створаны ў XVIII стагоддзі, перавезлі ў Мінск. Але не схавалі ў музейных фондах, а ўзяліся аднаўляць страчаныя пад вадой фарбы.

Цяпер жывапісная царыца ляжыць на падлозе ў адной з мінскіх майстэрняў. Ужо два гады над палатном памерам 36 квадратных метраў схіляюцца мастакі-рэстаўратары Уладзімір Нікіцін і Аляксандр Тарасік. Такіх маштабных твораў мастацтва няма больш нідзе ў Беларусі.

Майстры ачышчаюць фігуру царыцы ад пылу, лаку і іншых напластаванняў, залатоўваюць дзіркі. Каб працаваць з любой дэталлю твора, даводзіцца абуваць спецыяльныя тапкі, высцілаць па палатне “кладку” з аркушаў паперы і асцярожна рухацца па шэдэўры ад “купіны” да “купіны” — па сантыметры лечачы “Леду” ад траўмаў часу.

К 2011 году “Леда” мусіць узнесціся на алімп Нясвіжскага замка — да той самай столі, з якой яе калісьці знялі.

Пакуль мастакі ў Мінску яшчэ “чаруюць” над палатном, у самім радзівілаўскім палацы таксама ёсць чым займацца. Уладзімір Нікіцін, навуковы кіраўнік рэстаўрацыі манументальнага жывапісу палацава-паркавага ансамбля ў Нясвіжы, кожны тыдзень выязджае ў “беларускі Парыж”. У памяшканнях замка ён з калегамі з-пад слоя тынку выводзіць на белы свет рэшткі старажытных фрэсак.

Сляды жывапісу знойдзены ў тым жа корпусе, дзе вісела “Леда”, а таксама на столі белай бальнай залы на другім паверсе Камяніцы (будынак справа ад уязной брамы). Літаральна паўгода таму адкрыліся даволі вялікія фрагменты размалёўкі з фігурамі людзей, усходнімі арнаментальнымі матывамі. Часам на адной сцяне рэстаўратары знаходзяць да дзесяці напластаванняў роспісу розных эпох.

### Забытае імя часоў Траянскай вайны

Леда была жонкай спартанскага цара і маці Алены Чароўнай, той самай, з-за якой пачалася Траянская вайна. Па легендзе, нягледзячы на замуства, на царыцу з Алімпа заглядаўся і Зеўс. Галоўны грэчаскі бог не змог пераадолець спакусу, спусціўся на зямлю, падпільнаваў Леду на рацэ, перакінуўшыся ў лебедзя, і… авалодаў прыгажуняй. Ад “спаткання” царыцы з богам і нарадзілася Алена. Радзівілы захапляліся антычнасцю. Таму сюжэт пра Леду невыпадкова з’явіўся над лесвіцай галоўнага корпуса замка.

ЯК СПРАВЫ, ДЫЯСПАРА?

# “Уладары” пакарылі тальяцінцаў

**Сапраўдны сюрпрыз для аўтавазаўцаў Тальяцці зрабіў Цэнтр беларускай культуры “Нёман”, якім кіруе Леанід Міхаленка. Па запрашэнні Цэнтра ў госці да тальяцінцаў прыязджаў народны ансамбль музыкі і песні з горада Валкавыска.**

Цяпер у Тальяцці пражывае каля 6000 беларусаў, большая іх частка працуе на АўтаВАЗе.

У складзе Цэнтра беларускай культуры “Нёман” — 123 чалавекі. Гэта, у асноўным, зноў жа работнікі тутэйшага аўтазавода, а таксама настаўнікі, пенсіянеры, юрысты.

Цэнтр — месца сустрэчы тальяцінскіх беларусаў, якія аб’ядналіся не толькі для падтрымкі адзін аднаго, але і для прапаганды беларускай культуры і галоўных рыс беларускага народа — гасціннасці, працавітасці, высокай маралі і дабраты.

Аднак візітнай карткай “Немана” з’яўляецца фальклорны ансамбль «Купалінка», створаны ў 2005 годзе (мастацкі кіраўнік ансамбля — Людміла Дземіна), які ўпершыню заявіў пра сябе на свяце, прысвечаным Дню Незалежнасці Беларусі, а на вялікую сцэну выйшаў падчас удзелу ў фестывалі “Дружба народаў”, што праходзіў у філармоніі Тальяцці.

Сёлета Людміла Дземіна пабывала ў Мінску па запрашэнні таварыства “Радзіма”, дзе пазнаёмілася з галоўным спецыялістам аддзела па ідэалогіі Валкавыскага райвыканкама Аляксандрам Грыко. Даведалася аб тым, што ў Валкавыску ёсць ансамбль “Уладары” — выключна мужчынскі калектыў. І запрасіла прыехаць да беларусаў у Тальяцці, каб даць там некалькі канцэртаў.

Песня дапамагае сяброўству

“Уладары” прыехалі і пакарылі тальяцінцаў з першай песні Нездарма назва калектыва пераводзіцца на расійскую мову як “Властелины”. А на АўтаВАЗ яны змаглі трапіць дзякуючы таму, што цэнтрам беларускай культуры “Нёман” кіруе намеснік начальніка тэхналагічнага аддзела завода Леанід Міхаленка. Дзякуючы яму і Людміле Дземінай, якая таксама працуе на АўтаВАЗе, і было арганізавана выступленне.

Планавалася прымеркаваць выступленне да чарговай гадавіны яднання брацкіх народаў Расіі і Беларусі, але да Тальяцці “Уладары” змаглі даехаць пазней, бо тут, у Беларусі, прымалі ўдзел у праекце “Песні маёй краіны”, у якім выступілі з вялікім поспехам.

Дарэчы, калектыў гэты аматарскі, прафесійных музыкантаў у ім няма. І гэта ўражвае больш за ўсё. Мастацкі кіраўнік ансамбля, дырэктар Валкавыскага Дома культуры Вадзім Бычак расказвае, што ў складзе калектыву ёсць настаўнік, супрацоўнік дэпартамента аховы, ваеннаслужачы… Між тым, ансамбль пастаянна ўдзельнічае ў розных конкурсах і тэлевізійных праектах.

Дарэчы, сустракаючы гасцей з Беларусі, тальяцінская “Купалінка” таксама не падкачала і адказала беларусам “партызанскімі прыпеўкамі”.

Між іншым, мэтай візіту гасцей было яшчэ і тое, каб наладзіць самыя актыўныя стасункі паміж Тальяцці і Валкавыскам. Тэрмінам на тры гады была падпісана дамова паміж Цэнтрам беларускай культуры “Нёман” і Валкавыскім райвыканкамам, якая прадугледжвае пашырэнне супрацоўніцтва ў самым шырокім сэнсе.

**Галіна Навіцкая**
Каардынатар праектаў Таварыства “Радзіма”

# Шлях да вытокаў

**Мастацкі фільм пра Ефрасіннію Полацкую адлюстроўвае лёсавызначальныя падзеі айчыннай гісторыі**

Карціну “Па слядах Тваіх…” плануецца выпусціць у 2011 годзе — да 850-годдзя Крыжа Ефрасінні Полацкай. Аб гэтым паведаміла аўтар сцэнарыя і кінарэжысёр фільма Людміла Дуброўская.

Фільм ствараецца па благаславенні Мітрапаліта Мінскага і Слуцкага Філарэта, Патрыяршага Экзарха ўсяе Беларусі. Падзеі гістарычнай драмы ахопліваюць найбольш стваральны і плённы перыяд жыцця ігуменні Ефрасінні — год будаўніцтва храма Спаса і стварэння Крыжа-каўчэга, які стаў нацыянальнай святыняй і знакам духоўнага аднаўлення ўсяго хрысціянскага свету.



Сцэнарый карціны “Па слядах Тваіх…” — вынік чатырохгадовай работы Людмілы Дуброўскай. Яна вывучыла мноства гістарычных матэрыялаў царкоўных пісанняў, нейкі час працавала над праектам у Полацкім Спаса-Ефрасіннеўскім манастыры, дзе парадай ёй дапамагалі сёстры манастыра.

Кінасцэнарый ужо атрымаў станоўчыя водгукі спецыялістаў Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору імя К. Крапівы Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі. Мастацтвазнаўцы палічылі, што ідэя стварыць у яркай мастацкай форме вобраз Ефрасінні Полацкай і прадставіць лёсавызначальныя падзеі айчыннай гісторыі можа стаць нацыянальным кінапраектам.

Ефрасіння Полацкая — першая жанчына на ўсходнеславянскіх землях, якая прызнана святой. Нягледзячы на тое, што яе падзвіжніцкая дзейнасць прыйшлася ўжо на эпоху хрысціянскага расколу (сярэдзіна XII стагоддзя), яна аднолькава ўшанавана як у праваслаўі, так і ў каталіцтве. Для праваслаўных Беларусі Ефрасіння Полацкая з’яўляецца адной з самых ушанаваных святых, яна лічыцца апякункай жаночага манаства. Дзень памяці прападобнай Ефрасінні Полацкай адзначаецца 5 чэрвеня.

Глыбінны палескі гарадок у сваіх памкненнях да гістарычнай вечнасці з году ў год развіваецца, набывае абрысы новага аблічча. І разам з тым у галоўным застаецца ранейшым Лунінцам з усімі выдаткамі няпростага палескага жыцця… І жывуць тут ва ўсе вякі шчырыя, руплівыя, самаахвярныя, добразычлівыя, крыху зацятыя ў жаданні адолець вяршыні светастварэння палешукі, лунінчане.



# Знічкі Айчыны

Алесь Карлюкевіч

З кожнай чарговай экскурсіяй у Лунінец у мяне расце перакананне, што з часам жыць у звычайным райцэнтры на Берасцейшчыне становіцца ўсё цікавей і нават прэстыжней. Чаму так думаю, на чым будуецца мае, як некаму пакажацца, суб'ектыўныя высновы? Ды ўсё ж на тым, што шырэе, большыцца культурная, грамадска-асветніцкая прастора горада і ўвогуле ўсяе Лунінецкай старонкі. Як уражлівы прыклад — тыя дні памяці Аляксандра Блока і Мікалая Калінковіча (між іншым, даследчыка творчасці вялікага паэта, аўтара кнігі "Палескія дні Аляксандра Блока"), што з году ў год з сярэдзіны 1990-х ладзяцца ў горадзе і раёне. А яшчэ — велізарная краязнаўчая дзейнасць, ініцыіраваная Таццянай Канапацкай, Вадзімам Жылко, Сцяпанам Нефідовічам, іншымі луніненчанамі. Ды таксама — і выданне кніг. Як для правінцыі, дык проста ўражлівы прыклад збірання талентаў, грамадскія іх падтрымка… І, канешне ж, праявы творчай работы многіх яркіх асоб… Пра некаторых з луніненчан, хто ў розныя гады-дзесяцігоддзі спрыяў пашырэнню такой творчай атмасферы краю, і згадаем мы сёння, аглядаючы горад на старых паштоўках.

…Дарэчы, калі зайшла размова пра развіццё выдавецкіх, літаратурных традыцый у краі, то цікавы такі факт. Толькі ў 1996–1999 гадах журналіст і краязнаўца Вадзім Жылко выдаў у Лунінцы цэлую серыю кніжачак "Галасы Луніненчыны" з 9 (!) альманахаў з творамі літаратараў-землякоў. З 2000 года ў райцэнтры выдаецца, дзякуючы намаганням усё таго ж Вадзіма Жылко, серыя "Лунінецкая муза". Пабачылі свет 28 (!) альманахаў. А яшчэ ў выглядзе кніг асобных аўтараў прыходзяць да чытача і дадаткі да альманаха. Выдаецца таксама краязнаўчы альманах "Лунінецкі сшытак". У 1998 годзе пабачыла свет анталогія вершаў лунінецкіх аўтараў "Азбука паэзіі". Можна толькі дзівіцца, адкуль ў правінцыі гэтульки талентаў! А пачатак, вытокі — вось яны, блізка-блізенька: у 1960–1970-х гадах. Менавіта тады разгортвалася літаратурна-краязнаўчая работа журналіста і пісьменніка Мікалая Калінковіча. Так здарылася-склалася, што ў сяброўну Саюза пісьменнікаў СССР яго прынялі ўжо ў Туркменістане — у 1984 годзе. Менаівта ў Ашхабадзе да чытача прыйшлі першыя кнігі Мікалая: «Возвращение рассветной рани» і «Имя мое Свобода». Праўда, за некалькі гадоў перад імі пабачыў свет невялікі памерам нарыс "Лунінец" і ў Мінску. Кніжачка была напісана ў сааўтарстве. Хаця нельга сказаць, што талент Мікалая разгортваўся за межамі роднай старонкі. Не, хутчэй, там, у Каракумах, ён мацаваўся, гартаваўся, мужнеў.


Лунінец. Вуліца Незалежнасці


Лунінец. Фальварак



Лунінец. Вуліца Гандлёвая

А наступнікі Мікалая Калінковіча на ніве літаратурнай, творчай работы — земляі Мікалай Еляневскі (ён яшчэ і член Саюза пісьменнікаў Расіі), Аксана Спрынчан (білет члена творчага саюза ёй уручалі менавіта ў Лунінцы, бо тут яна нарадзілася, з палескім горадам выяўляе яднанне ў сваёй творчасці і цяпер).

Мне падаецца, што даўно ўжо ў пісьменніцкай сябрыне павінна быць і Таццяна Канапацкая, старанны краязнаўчы літаратар, публіцыст, укладальнік трох выпускаў зборніка "Лунінецкая памяць", укладальнік гісторыка-дакументальнай хронікі Лунінецкага раёна "Памяць".

Вандруючы па сучаснаму Лунінцу, адкрываючы яго стары цэнтр на вуліцах Савецкай і Чырвонай, углядаючыся ў помнікі, якія пастаўлены за пасляваенныя гады, усё ж часам думаецца і пра тое, што менавіта ў Лунінцы магло б быць крыху болей пазнак старасветчыны гарадка, яго даўняй гісторыі. Адпаведна — і ўвагі да знакамітых прашчураў. Выдатна, што ёсць тут вуліца Калінковіча. Але шкада, што па-за шырокай увагай застаецца Платон Ціхановіч (1838–1922), які працаваў святаром у Лунінец ў Барысаглебскай царкве. Між іншым, гэта менавіта ён з'яўляецца аўтарам "Беларускай граматыкі" (завершана ў 1875 годзе). Чаму б не ўшанаваць хаця б усталяваннем мемарыяльнай дошкі рускую пісьменніцу Соф'ю Прорвіч (1860 – каля 1937 года), якая з'яўляецца аўтарам многіх духоўных твораў. На Лунінеччыне (у Лахве, Луніне, самім Лунінцы) збіраў матэрыялы па вывучэнню беларускай мовы прафесар Варшаўскага універсітэта Яўхім Карскі (1861–1931). Калі б вы зазірнулі ў кнігу "Казкі і апавяданні беларусаў-палешукоў" вядомага фалькларыста А. К. Сержпутоўскага (1864–1940), то таксама склалася б уражанне, што быццам у Лунінцы, на Лунінеччыне пабывалі… Асабліва гэта відаць па казках, запісаных даследчыкам.


Лунінец. Святочнае шэсце

У Мікашэвічах (а сёння ў гэтага лунінецкага паселішча ўжо статус горада) нарадзіўся 28 лістапада 1934 года польскі пісьменнік Багдан Мадэй. Праўда, у мястэчку прайшлі толькі першыя два гады жыцця будучага літаратара. Пазней сям'я Мадэяў пераехала ў Гродна. Сярод кніг Багдана Мадэя цікавасць у польскага чытача выклікалі зборнікі апавяданняў і аповесцяў "Маладыя дарослыя людзі", "Баль", "Сузор'е"… Ураджэнец Лунінеччыны яшчэ вядомы і перакладамі мастацкіх твораў з англійскай на польскую мову. Дарэчы, Мікашэвічы — і радзіма яўрэйскага пісьменніка Шымана Гарадзецкага (нарадзіўся ў 1920 годзе). Ваяваў у складзе арміі Андэрса. Аўтар аповесці "Эхіэль-герой", многіх паэтычных твораў.

І ў літаратурнай біяграфіі лунінецкага краю знайшлося месца розным моўным, нацыянальным плыням — беларускай перш-наперш, польскай, рускай, яўрэйскай… Акалічнасць немалаважная, якая ў чарговы раз падкрэслівае, што Беларусь і нават глыбінная палеская старонка — і ёсць перакрыжаванне многіх дарог, эпіцэнтр, дзе судакранаюцца народы і культуры, дзе ёсць месца для ўсіх, хто імкнецца ўкладам свайго жыцця працаваць на будучыню, на вечнасць… І калі ў вас з'явіцца вольная часінка, задумайцеся над гэтым, углядзіцеся ў твары нашых суайчыннікаў, успомніце розных сваіх суродзічаў.

© В поисках утраченного

Паштоўкі з калекцыі Уладзіміра Ліхадзедава

КОНКУРСЫ

# Майстры абаяльных усмешак

## У Мінску ўпершыню прайшоў арыгінальны конкурс "Жывая палітра"

Іван Ждановіч

Праца гэтых людзей падобная да творчасці скульптараў, а для іх "міні-твораў" не патрэбны выставачныя стэнды. Усміхнецца чалавек — і бачна: сапраўдны майстар працаваў над яго "беласнежнай кампазіцыяй" ці пачатковец. Гаворка тут, як вы ўжо здагадаліся, пра зубных тэхнікаў. Між іншым, іх з поўным правам можна называць мастакамі прыгожых усмешак. Асабліва лаўрэатаў першага гарадскога конкурсу "Жывая палітра".

"Здароўе. Талент. Прыгажосць" — такім, магчыма, стане з часам дэвіз конкурсу, які мы намераны штогод праводзіць сярод зубных тэхнікаў Мінска, — гаворыць Сяргей Кулік, адзін з арганізатараў мерапрыемства, галоўны ўрач 14-й мінскай стаматалагічнай паліклінікі. — Як мы пераканаліся, такія спаборніцтвы — добрая школа для адточвання майстэрства нашых калег, падвышаюць яны і прэстыж прафесіі. Дарэчы, зубныя тэхнікі — гэта, як і ўрачы-дантысты, спецыялісты з добрым мастацкім густам, і пры паступленні ў вучылішчы, у Мінску і Віцебску, яны абавязкова здаюць адпаведны творчы экзамен. А назва "Жывая палітра" — даніна павагі да мастакоўскага таленту гэтых сціплых, працавітых людзей".


БЕЛТА

Прыгожая ўсмешка — лепшая ацэнка майстэрству дантыста

Сёлета майстэрства на гарадскім конкурсе паказалі пятнаццаць лепшых спецыялістаў, яны прайшлі праз адборачныя туры ў сваіх установах ахове здароўя. Канкурсанты спачатку выконвалі практычнае заданне: рабілі "металакерамічную адзіночную каронку". А потым было вялікае "данта-шоў", якое сабрала больш за 200 удзельнікаў і балельшчыкаў. Сяргей Кулік, які, дарэчы, з'яўляецца галоўным пазаштатным спецыялістам па артапедычнай стаматалогіі камітэта па ахове здароўя Мінгарвыканкама, удакладніў: пры правядзенні конкурсу выкарыстоўваўся лепшы вопыт замежных калег. А спонсарамі мерапрыемства выступілі шэсць вядучых кампаній, якія рэалізуюць у Беларусі тэхналогіі і матэрыялы для стаматалогіі і зубапратэзавання.

Гран-пры конкурсу "Жывая палітра" атрымаў Павел Храмой, зубны тэхнік з 7-й гарадской стаматалагічнай паліклінікі. Павел будзе прадстаўлены на званне "Майстар года 2009" — яно ўручыста прысвойваецца лепшым спецыялістам Мінска ў Дзень горада ў будынку гарадской ратушы. А яго калега Аляксандр Сердзюкоў з 14-й паліклінікі, які заняў першае месца, атрымаў у якасці падарунка магчымасць прайсці гэтым летам сямідзённую стажыроўку ў Германіі.

**Дарэчы.** "Мінск — горад усмешак", сцвярджаюць мінскія дантысты на сваім нядаўна створаным інфармацыйна-пошукавым стаматалагічным партале, адрас якога ў інтэрнеце www. smile-city.by. Між іншым, да беларускіх спецыялістаў усё часцей звяртаюцца за паслугамі грамадзяне замежных краін: іх задавальняе і кошт, і якасць работ.

# Летні фэст з майстар-класамі

Яніна Сядзельнік

**У мінскім Доме дружбы сабралося шмат аматараў нямецкай мовы. З Германіі спецыяльна прыехалі вядомыя выканаўцы паэтычнага слэму Тобіас Борке, Мікіта Гарбуноў і Філіп Шарэнберг — яны правялі тры незвычайныя майстар-класы**

Тут варта патлумачыць: слэм-паэзія цяпер вельмі папулярная ў Германіі, гэта адметная форма слоўнай творчасці, разлічаная на сцэнічнае выкананне. А паэтычны слэм — спаборніцтва на сцэне перад аўдыторыяй. Яго ўдзельнікі змагаюцца за прыхільнасць публікі, чытаючы ўласныя творы.

Тобіас Борке выйграў некалькі рэперскіх спаборніцтваў (Freestyle-Battles), займаецца рэпам ужо больш за дзесяць гадоў. Ён расказаў пра з'яўленне гэтага віду мастацтва, яго пашырэнне ў свеце. Як напісаць добры рэп? Тобіас дзяліўся вопытам, потым удзельнікі семінара і самі спрабавалі рабіць гэта (безумоўна, на нямецкай мове) і чыталі свае творы.

А Мікіта Гарбуноў і Філіп Шарэнберг праводзілі майстар-класс для настаўнікаў нямецкай мовы і дацэнтаў, прысвечаны паэтычнаму слэму… на занятках па нямецкай мове. Як вядома, у класе складана зрабіць працэс навучання цікавым для школьнікаў. Магчыма, дапаможа ў гэтым новы жанр літаратуры. Слэм-паэзія, як лічаць псіхолагі, дапамагае выяўляць прыхаваныя таленты вучняў, што рэдка праяўляюцца на стандартных занятках. Як спланаваць, арганізаваць, правесці заняткі па слэм-паэзіі — пра тое ішла зацікаўленая размова.

Майстар-клас праводзіўся таксама для школьнікаў і студэнтаў. Ім спачатку расказалі пра слэм-паэзію, паказалі кароткія відэа-выступленні нямецкіх слэм-паэтаў. Потым кожны паспрабаваў стварыць свой уласны тэкст і прэзентаваць яго, можна было сапраўды "паспытаць на смак" жывую нямецкую мову. Між іншым, стварэнне слэм-тэксту і ягонае дэкламаванне вельмі актывізуе ўсе моўныя навыкі: слоўны запас, граматыку, вымаўленне… Урэшце Мікіта Гарбуноў парадаваў усіх рамантычнымі нямецкімі песнямі пад гітару. А дырэктар Гётэ-Інстытута ў Мінску Катрын Оствальд-Рыхтэр уручыла ўзнагароды навучэнцам, якія вытрымалі выніковыя іспыты на "вельмі добра", а таксама спецыяльныя стыпендыі Гётэ-Інстытута для далейшага вывучэння нямецкай мовы ў Германіі. Завяршылася свята пачастункамі і спецыяльным музычным праектам Андрэя Іванова "The Zartipo".

# Запаведнік — месца папулярнае

**Кожны дзесяты турыст прыязджае ў Нацыянальны парк "Белавежская пушча" з-за мяжы**

Запаведнік ужо наведалі прадстаўнікі сямідзесяці краін свету. Пры гэтым, з кожным годам лік гасцей пушчы павялічваецца. Калі пазалетась у Нацыянальным парку пабывалі каля двухсот тысяч чалавек, то летась — ужо 270 тысяч. З пачатку бягучага года лік турыстаў, якія прыязджаюць у Белавежскую пушчу, зноў павялічыўся.

Для прыцягнення турыстаў супрацоўнікі Белавежскай пушчы стала ўдасканальваюць экскурсійную праграму. Напрыклад, яны абвясцілі, што штодня ўзнагародзяць 500-тысячнага наведвальніка рэзідэнцыі Дзеда Мароза, якая знаходзіцца ў Нацыянальным парку. Дарэчы, візіт да гэтага казачнага персанажа — самы запатрабаваны сярод турыстаў від экскурсіі. На другім па папулярнасці месцы — аглядная прагулка па маляўнічых месцах запаведніка.

# Як павялося яшчэ з даўніны

## Калядны абрад "Цары" вёскі Семежава Капыльскага раёна будзе прэтэндаваць на ўключэнне ў Спіс Сусветнай культурнай спадчыны ЮНЕСКА

Жанна Катлярова



У вёсцы Семежава дагэтуль жывуць свае калядныя героі

Па словах загадчыцы сектара аховы гісторыка-культурнай спадчыны Міністэрства культуры Беларусі Наталлі Хвір, дакументы перададзены на разгляд экспертаў ЮНЕСКА у Парыж. Працэдура прыняцця рашэння па аб'ектах даволі складаная і доўгая, таму гаварыць аб тэрмінах сёння рана.

Калядны абрад "Цары" зарадзіўся яшчэ ў XVIII стагоддзі. У той час салдаты і афіцэры рускай арміі хадзілі па вясковых хатах і віншавалі гаспадароў са святам, паказвалі прадстаўленні і прасілі дарункі. Затым традыцыі пераняліі вясковыя дзеці: яны сталі апранацца ў карнавальныя касцюмы, якія нагадваюць ваенную форму (гэтыя персанажы атрымалі мянушку "цары"). Таксама ў калядных паходах прымалі ўдзел і мясцовыя героі — Дзед і Баба. Гэты унікальны абрад быў адноўлены ў 1997 годзе і праводзіцца па сённяшнім дзень. Ён з'яўляецца нематэрыяльным выяўленнем духоўнай культуры, укладу жыцця толькі жыхароў вёскі Семежава.

Наталля Хвір адзначыла, што ў Беларусі актывізаваліся работы па прадстаўленні матэрыялаў пра аб'екты нематэрыяльнай спадчыны для Дзяржаўнага спіса гісторыка-культурных каштоўнасцяў. У прыватнасці, у Віцебскай вобласці гэты пералік уключае 18 пунктаў, па Мінскай вобласці прэтэндэнтаў 16.

Цяпер у Дзяржаўны спіс гісторыка-культурных каштоўнасцяў уключана 56 аб'ектаў нематэрыяльнай спадчыны, усяго ў спісе — 4 787 гісторыка-культурных каштоўнасцяў.

Заснавальнік: Рэдакцыя газеты «СБ»
Рэдактар Віктар Харкоў
Адрас: пр. Незалежнасці, 44, Мінск, 220005
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 61
Тэлефон рэдакцыі: +375 17 288—12—80; факс: +375 17 288—12—80
Бюро па рэкламе: Тэл. +375 17 290—60—11
E—mail: golas_radzimy@tut.by
Газета надрукавана ў Рэспубліканскім унітарным прадпрыемстве «Выдавецтва «Беларускі Дом друку»
Аб'ём выдання: 1 друк. арк.
Тыраж: 2000
Заказ: 766
Пазіцыі рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках "Голасу Радзімы", могуць не супадаць.